11 ЧЭРВЕНЯ 1999г. ПЯТНІЦА

# НАВІНЫ

№64 (595) КОШТ СВАБОДНЫ



# Вайна скончылася

## NATO прымусіла Мілошавіча выканаць усе свае ўмовы і святкуе перамогу. Расія затаілася

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Мірнае пагадненне па Косава нарэшце падпісанае. Гэтая адметная падзея адбылася ў ноч з серады на чацвер. Авіяцыі NATO спатрэбілася 78 дзён бамбардаваць Югаславію, каб давесці да прэзідэнта Слабадана Мілошавіча неабходнасць мірнай дамовы. Варта дадаць, што тыя ўмовы, якія NATO прапанавала яму яшчэ падчас перамоваў у Рамбуйе, былі куды больш выгаднымі за цяперашнія.**

Югаславія пагадзілася адвесці войскі і паліцыю з тэрыторыі Косава на працягу адзінаццаці дзён. Гэта першы крок на шляху да міру. Пасля таго, як югаслаўскія войскі пакінуць Косава, NATO перапыніць свае бамбардзіроўкі.

Наступным крокам пасля адводу сербскіх войскаў будзе ўвод міратворцаў у мяцежны край. Яны мусяць забяспечыць як мага хутчэйшае вяртанне косаўскіх уцекачоў на радзіму. Паводле ацэнак Вярхоўнага камісарыята ААН па справах уцекачоў, пасля пачатку ваенных дзеянняў у Косава край пакінула не менш за 900 тысяч чалавек, у асноўным – этнічныя албанцы.

Усю ноч доўжылася надзвычайнае пасяджэнне Савета бяспекі ААН – ён вырашаў, ці варта ўводзіць міратворчыя сілы ў Косава. Тым часам, NATO для сябе гэтае пытанне ўжо вырашыла – у склад гэтых сілаў будуць уваходзіць каля 50 тысяч чалавек з прыкладна трыццаці краінаў свету. З іх 17,5 тысяч ужо высадзіліся на тэрыторыі Македоніі і цяпер чакаюць свайго часу.

Паводле натаўскіх планаў, Косава можа быць падзеленае на тры вялікія зоны – паўночную, цэнтральную і паўднёвую. Гэтыя зоны будуць кантраляваць міратворцы з розных краінаў. ЗША і Францыя гатовыя прапанаваць у склад міратворчых сілаў па 7 тысяч чалавек, Вялікабрытанія – каля 13 тысяч, 8 тысяч – ад Германіі, 5 тысяч – ад Італіі. Таксама ў склад міратворцаў увойдуць вайскоўцы ад новых чальцоў NATO – Венгрыі і Чэхіі.

Так і не вырашана, ці далучацца да міратворцаў расійскія войскі – Расія, як заўсёды, спрабуе выгандляваць для сябе нейкія «асаблівыя ўмовы», ёй таксама хочацца быць наперадзе ва ўрэгуляванні косаўскага канфлікту. Расія не пашкадавала грошай і гатовая пасляць у Косава 10 тысяч сваіх міратворцаў. Намеснік дзяржсакратара ЗША Строўб Тэлбат спачатку не выключаў, што Расія можа атрымаць «на откуп» адзін асобны сектар косаўскай тэрыторыі, але потым зрабіў паварот на 180° і адмовіў Расіі ў асобным «кавалку Косава» – зашмат гонару.

Цікава, што югаслаўскія дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі падаюць дамову як «перамогу мірнай палітыкі Слабадана Мілошавіча». Зрэшты, як паведамляюць інфармацыйныя агенцтвы, налёты натаўскай авіяцыі скончыліся ўжо ў сераду каля 23 гадзінаў вечара па беларускім часе. Сербы адзначылі гэты факт народнымі святкаваннямі ў буйных гарадах. ■



Будучыня Косава вырашалася ў Брусэлі, а не ў Маскве. Перамовы генсека NATO **Хав'ера Саланы** і дзяржсакратара ЗША **Мадлен Олбрайт** у штаб-кватэры Паўночнаатлантычнага альянсу ў Брусэлі.



Нямецкія вайскоўцы гатовыя да выканання міратворчай місіі ў Косава.

### ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

## Ашгабад уводзіць для нас візы

З 9 чэрвеня Туркменістан увёў візавы рэжым у адносінах з краінамі СНД. Такім чынам, цяпер для грамадзянаў СНД пры ўездзе ў Туркменістан будуць дзейнічаць тыя ж правілы, што і для прадстаўнікоў далёкага замежжа. Віза на ўезд у краіну каштуе ад 10 да 40 долараў ЗША ў залежнасці ад віду і тэрміну дзеяння.

*Аддзел інфармацыі*

## Бронецягнікі з мінулага стагоддзя

Вялікабрытанія накіравала ў Косава чатыры бронецягнікі. Усю гэтую тэхніку з поўным правам можна назваць антыкварыятам – бо яна брала ўдзел яшчэ ў англа-бурскай вайне напрыканцы мінулага стагоддзя.

***Расціслаў ПЕРМЯКОЎ***

## Папа Рымскі правёў набажэнства

1.520 прыхаджан-каталікоў Гродзенскай дыяцэзіі прысутнічалі на набажэнстве, якое 9 чэрвеня правёў у польскім горадзе Элк Папа Рымскі Ян Павел II. Сярод беларускіх багамольцаў было 340 дзяцей ва ўзросце да 15 гадоў. Папа не спяшаўся пакінуць месца сустрэчы, і людзі пайшлі да яго. Шлях перастуліла ахова, але калі Ян Павел II даведаўся, што побач апынуліся вернікі з Гродзеншчыны, то загадаў ахове не чыніць перашкодаў. На памяць аб сустрэчы быў зроблены агульны фотаздымак.

***Антон ЛАБОВІЧ, БелаПАН***



### СВЕДЧАННЕ

# Вяртаючыся на Нямігу

## Становяцца вядомыя новыя імёны ахвяраў трагедыі

**Дзяніс НОСАЎ**

Пачынаюць з'яўляцца непасрэдныя доказы таго, што не ўсе ахвяры трагедыі на Нямізе трапілі ў афіцыйныя спісы.

У НАВІНАЎ ёсць пісьмовае сведчанне мінчанкі Марыі Кунінай, што сярод загінулых быў яе сябар Сяржук Казлевіч, 1978 года нараджэння, з г.Лунінца. 30 траўня ён з сябрамі прыехаў з Лунінца ў Мінск. Яны разам былі на тым свяце з трагічным канцом.

> **Надпіс на «сцяне плачу»**
> Ожидая последний экзамен,
> Я не верю, что все ж повезет
> Мне увидеть своими глазами,
> Как толпа превратится в народ.

Сержука Казлевіча пахавалі на радзіме ягоныя сябры, якія, па папярэдніх звестках, забралі яго цела з бальніцы. Хутка яны павінны звязацца з рэдакцыяй, і тады мы паведамім падрабязнасці падзеяў той трагічнай ночы, як магло здарыцца, што загінулага Сержука афіцыйна не зарэгістравалі.

Як мяркуе сведка Маша Куніна, хутчэй за ўсё яго не ўнеслі ў спіс, бо хлопец быў сірата і не было каму паклапаціцца аб ім.

> **Надпіс на «сцяне плачу»**
> Я хотела услышать проповедь покаяния - я ее здесь увидела. Люди! Это не открытие. Каждый день мы друг друга топчем. ...и не только ногами.

Яшчэ рэдакцыя просіць адгукнуцца тых, хто ведае Шадзько Вольгу Уладзіміраўну, 1979 года нараджэння, Нікіфараву Марыну, чые імёны пад нумарамі 53 і 54 былі дапісаныя ў пераходзе на Нямізе побач з афіцыйным спісам, а таксама блізкіх Віталіка, жалобны развітальны ліст да якога нядаўна быў прыклееены да сцяны пераходу. **Просьба звяртацца па тэлефоне 210-02-53.** ■

У спіса загінуўшых на ст. м. Няміга
не быў занесена Сержук Казлевіч
1978 г. н. з г. Лунінец
Гэта факт падцвярджаю я, Куніна
Марыя.

### НАДВОР'Е




**12-13 чэрвеня** пераменная воблачнасць, у **Брэсцкай і Гродзенскай** абласцях месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, вецер усходні, 4–9 м/сек, пры навальніцах парывы да 15–20 м/сек. Тэмпература паветра ночу 14–19 градусаў цяпла.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**
**425 000**

## ПЯТНІЦА З МІКАЛАЕМ ХАЛЕЗІНЫМ

### Телемёт

Беларусь давно живет в плену. С тех пор, как появилось телевидение. Раньше это был плен советский, сегодня — российский. О жизни на свободе нам пока остается только мечтать.

Для того, чтобы выбраться из плена, надо обеспечить каждому белорусу свободный доступ не только к российским, но и к европейским и американским телеканалам. Этого власти допустить не могут. Иначе мы начнем разбираться в ситуации и докопаемся до ответов на интересующие нас вопросы.

Например, мы сможем понять, что Россия не хочет прекращения войны в Югославии. Почему? Потому что за время проведения операции NATO на Балканах цена на нефть выросла с 8,6 доллара за баррель до 18 долларов. Теперь наши восточные соседи могут не волноваться за исполнение бюджета и даже войти в 2000 год с пополнившимся золотовалютным запасом.

Еще мы сможем выяснить, что все разговоры о том, что NATO терпит сокрушительное политическое поражение — это бред сивой кобылы, который ретранслируют только российские и белорусский телеканалы.

Влияние на наши умы единого информационного пространства парализует интерес к собственной жизни и заставляет усиленно размышлять над мелкими гнусными проблемами соседнего государства. После того, как мы включаем телевизоры, в наши квартиры входят недоразвитые илюхины и звероподобные шандыбины. Вместо того, чтобы познавать мир и учиться жизни у стран с развитой демократией, мы вникаем в проблемы бесконечных выборов во Владивостоке и выясняем, за кого будет голосовать на президентских выборах Боря Моисеев, пытаясь разглядеть среди кандидатов гомосексуалиста.

Сегодня, по прошествии последних двух месяцев, я понял, что в ближайшие 5 — 10 лет у меня не возникнет желания перечитать что-нибудь из Пушкина. Российские электронные СМИ превратили прекрасного поэта, гуляку, весельчака и жизнелюба в чучело Ленина, лежащее на Красной площади.

Когда в понедельник утром мой коллега Олег Груздилович вошел в редакцию, он сказал замечательную фразу: «До 300-летия великого поэта осталось 99 лет и 364 дня!» Мы посмеялись. Но потом отчего-то стало грустно. Наверное, потому, что какой-нибудь юбилей в России наступит раньше... Еще при нашей жизни.

# Масквічы прапанавалі збірацца ля тэатра

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

**Учора старшыня дзяржаўнай камісіі па высвятленні прычынаў трагедыі на Нямізе Сяргей Лінг дакладваў Аляксандру Лукашэнку аб выніках свайго расследавання. Калі гэты нумар падпісваўся ў друк, змест прэм'ерскага даклада яшчэ не быў вядомы. Аднак мы даведаліся аб некаторых падрабязнасцях работы гэтай камісіі.**

Камісія працавала ў рэжыме строгай сакрэтнасці. У якасці кансультантаў з Масквы прыязджала група супрацоўнікаў расійскіх сілавых структураў — МУС, ФСБ і МЧС. На працягу трох дзён гэтыя эксперты агледзелі месца трагедыі і іншыя плошчы Мінска і зрабілі сваё заключэнне. На думку расіянаў, праводзіць масавыя мерапрыемствы на Нямізе нельга ні ў якім выпадку. З аднаго боку гэтай пляцоўкі цячэ рака, з другога — знаходзяцца мост, транспартная развязка і ўваход у метро. Усё гэта ўяўляе значную небяспеку для патэнцыйных удзельнікаў святкаванняў. Не лепшым месцам для правядзення фэстаў, канцэртаў і мітынгаў з'яўляюцца плошча Я.Коласа і іншыя цэнтральныя плошчы Мінска. Для масавых мерапрыемстваў масквічы параілі выкарыстоўваць толькі пляцоўку перад Оперным тэатрам, якая, на думку экспертаў, найбольш адпавядае крытэрыям бяспекі.

Інфармацыя аб парадах маскоўскай камісіі знайшла сваё пацверджанне 9 чэрвеня, калі начальнік мінскай міліцыі Барыс Тарлецкі выступаў перад дэпутатамі прэзідэнцкага парламента. Па словах генерала, у будучыні масавыя мерапрыемствы ў Мінску будуць праводзіцца на значнай адлегласці ад уваходаў у метро, аўтамагістраляў, мастоў, прамысловых, культурна-гістарычных і рэлігійных аб'ектаў. На месцы правядзення такіх імпрэзаў будзе забаронены гандаль спіртнымі напоямі. Шэф мінскай міліцыі лічыць, што віны міліцыянтаў у падзеях 30 траўня на Нямізе няма, таму Барыс Тарлецкі і не падаў у адстаўку, хоць такі варыянт спачатку ім разглядаўся. ■

# Сірэны вылі, як на вайне

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

Учора ў Беларусі прайшлі вучэнні Грамадзянскай абароны. Афіцыйна паведамлялася, што вучыць будуць не простых грамадзянаў краіны, а кіруючых кадры. Так і аказалася. Начальнікаў з раніцы вазілі па спецыяльных аб'ектах, якія ўваходзяць у сістэму грамадзянскай абароны. Напрыклад, прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, які лічыцца камандуючым ГА, пабываў на аб'екце за межамі Мінска. Яму была прадэманстраваная сістэма аператыўнага кіравання ў надзвычайных сітуацыях. Аналагаў такой сістэмы, аказваецца, няма ні ў адной краіне СНД. Як распрацавалі нашыя вучоныя з Акадэміі навукаў. Лінг з камандай засталіся вельмі задаволеныя.

Чаго, магчыма, не скажаш пра простых грамадзянаў краіны. Прыкладна ў гадзіну дня ўсе мы здрыгануліся ад воя сірэнаў, які раней чулі хіба што толькі ў фільмах пра вайну. Была моцна, а адкуль — невядома. «Магчыма, адусюль», — пажартаваў намеснік кіраўніка ўпраўлення ГА пры міністэрстве ўнутраных справаў палкоўнік Уладзімір Мурашка. Паводле ягоных словаў, сірэны ў гарадах і населеных пунктах Беларусі ўстаноўленыя праз кожныя 1.000 метраў. Колькі ўстановак працуе ўсяго, спадар Мурашка не ўдакладніў, спаслаўшыся на службовую таямніцу. Палкоўнік запэўніў, што ўчарашнія вучэнні ніяк не звязаныя з падзеямі ў Югаславіі. Маўляў, план іх правядзення быў падпісаны яшчэ ў снежні мінулага года. «Падобныя вучэнні праходзілі апошні раз у 1996 годзе», — паведаміў Уладзімір Мурашка. ■

**КАМЕНТАР**

## Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ:
# «Арышт Эйдзіна можа азначаць «падкоп» пад кіраўніка Нацбанка Пракаповіча»

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

Арышт прэзідэнта Незалежнай кансалтынгавай групы Эдуарда Эйдзіна можа азначаць «падкоп» пад цяперашняга кіраўніка Нацыянальнага банка Беларусі Пятра Пракаповіча з боку асобных уладных структураў. Такое меркаванне выказаў экс-старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч, каментуючы затрыманне праваахоўнымі органамі аднаго з распрацоўшчыкаў эканамічных праграмаў для беларускага ўрада.

Эдуард Эйдзін быў арыштаваны 28 траўня і змешчаны ў следчы ізалятар КДБ. Мерай стрымання абранае прэвентыўнае затрыманне на тэрмін да 30 сутак. Яму інкрымінуюцца крадзяжы ў асабліва буйных памерах і незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць. Хутчэй за ўсё, гэтыя абвінавачанні звязаныя з яго ўдзелам у фарміраванні золатавалютных рэзерваў краіны за кошт эмісійных крэдытаў, выдадзеных БелАЗу, які пастаўляў вялікагрузныя аўтамабілі ў Казахстан ці Якуцію, а пакупнікі расплачваліся золатам. Крэдыты выдаваў гэтаму прадпрыемству Нацыянальны банк краіны, які ўзначальвае Пётр Пракаповіч. Такую схему прапанавала група Эйдзіна, якая, паводле папярэдняй інфармацыі, атрымлівала камісійныя са здзелкі.

Станіслаў Багданкевіч лічыць, што на той час Э.Эйдзін апынуўся запатрабаваны А.Лукашэнкам і ягоным атачэннем, паколькі ён прапаноўваў простае выйсце са складанай сітуацыі. «Эйдзін верыў у магчымасць выйсці з эканамічнага крызісу за кошт грашовай эмісіі і ў папаўненне залатога запасу краіны шляхам продажу тавараў, не разумеючы, што больш важным за золата з'яўляецца паступленне ў рэспубліку цвёрдай валюты, — сказаў былы кіраўнік Нацбанка. — Вядома, сам Эйдзін не пераўтвараў у жыццё такія «эмісійныя» ідэі; гэта рабіў П.Пракаповіч». На думку Багданкевіча, зараз у дачыненні цяперашняга кіраўніка Нацыянальнага банка Пятра Пракаповіча з боку кіраўніцтва Беларусі могуць быць прадпрынятыя любыя захады, аж да зняцця з пасады і арышту. ■



## Список пунктов МГОРП «Белсоюзпечать», где принимается подписка «до востребования»

1. Ул.Володарского, 22. Магазин № 14
2. Ул.Есенина, 16. Магазин № 20
3. Ул.Жилуновича, 31. Магазин № 24
4. Ул.Жуковского, 5, корп.1. Октябрьский пункт подписки
5. Ул.Жуковского, 5. Магазин № 1
6. Ул.Я.Коласа, 67. Магазин № 7
7. Ул.Калиновского, 82, корп.2. Магазин № 13
8. Ул.Кижеватова, 80. Магазин № 12
9. Ул.Кошевого, 8. Партизанский пункт подписки
10. Ул.Ленина, 15. Магазин № 4
11. Пр.Машерова, 51, корп.1. Магазин № 19
12. Пр.Машерова, 31 (г-ца «Планета»). Киоск № 262
13. Пр.Машерова, 19 (г-ца «Юбилейная»). Киоск № 78
14. Ул.Некрасова, 35. Магазин № 17
15. Площадь Победы (подземный переход). Магазин № 18
16. Площадь Притыцкого (подземный переход). Магазин № 21
17. Площадь Я.Коласа (переход около ЦУМа). Киоск № 136
18. Пр.Пушкина, 77. Магазин № 11
19. Пр.Рокоссовского, 140. Магазин № 9
20. Ул.Романовская Слобода, 9. Фрунзенский пункт подписки
21. Ул.Славинского, 39. Магазин № 23
22. Пр.Скорины, 11 (г-ца «Минск»). Киоск № 34
23. Пр.Скорины, 44. Магазин № 2
24. Пр.Скорины, 76. Магазин № 3
25. Пр.Скорины, 113. Первомайский пункт подписки
26. Ул.Сторожевская, 15 (г-ца «Беларусь»). Киоск № 187
27. Ул.Сурганова, 40. Магазин № 8
28. Ул.М.Танка, 16. Магазин № 15
29. Ул.Филимонова, 1. Магазин № 6
30. Ул.В.Хоружей, 24. Магазин № 16

**ЦЫТАТА НУМАРА**

**— Вы косовские беженцы? — ошарашил нас вежливым вопросом таможенник в аэропорту «Осло». Не знаю, почему он сделал такое предположение.**

*Леонид ЮНЧИК*
*Газета «Рэспубліка», 10 июня 1999г.*

# «Лукашэнка, табе застаўся месяц»

**Аляксей ШМЯЛЁЎ**

Прадстаўнікі трох буйнейшых беларускіх партыяў — БНФ, АГП і БСДП (НГ) — падалі ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне ў нядзелю, 20 чэрвеня, шэсця і мітынгу пад дэвізамі «Не — фашызму, вайне і дыктатуры!» і «Лукашэнка, табе застаўся месяц». Паводле заяўкі, акцыя павінна пачацца а 14-й гадзіне на плошчы Якуба Коласа. Асноўная мэта акцыі, па словах арганізатараў, — узрушыць грамадства перад шэрагам дэманстрацыяў, якія павінны адбыцца бліжэй да 20 ліпеня, дня, калі ў прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі сканчыцца афіцыйны тэрмін паўнамоцтваў. ■

# Шчукіна заелі мошкі

**Язэп СІНІЦКІ**

Днямі вядомы журналіст і праваабаронца Валерый Шчукін трапіў у шпіталь. Прычынай пагаршэння здароўя апазіцыянера сталі мошкі-крывасмокі, якія моцна пакусалі Валерыя Аляксеевіча, калі ён працаваў на ўласным лецішчы. Праклятыя гнюс сёлета дастаўляе нямала праблемаў людзям і хатняй жывёле. Пакусаны дачнік Шчукін прабудзе ў шпіталі некалькі дзён. Спадзяемся аднак, што ненажэрным крывасмокам не ўдалося надоўга выбіць Валерыя Шчукіна з актыўнага грамадскага жыцця. ■

# Атручанае мяса «тармазнулі»

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН**

Каля дзесяці машынаў з расійскімі і беларускімі нумарамі, гружаных мясам з еўрапейскіх краінаў, знаходзяцца сёння на пляцоўках тэрмінала «Брэстгрузаўтасервіс». Машыны «тармазнулі» ў Брэсце пасля таго, як прыйшло распараджэнне дзяржаўнай ветэрынарнай інспекцыі аб забароне ўвозу ў Расію, а пазней і ў Беларусь мяса, субпрадуктаў і фаршу птушынага, свініны і прадуктаў з яе, кармоў для свінняў і птушкі з Бельгіі, Францыі, Галандыі, Англіі і Германіі. Вадзіцелі вялікагрузных аўтамабіляў абураныя: некаторыя з іх загружаліся напрыканцы траўня ці ў пачатку чэрвеня, прыбылі ў Брэст і адразу атрымалі «адмову» на далейшы рух. Аднак іншага выйсця няма — мяса накіроўваецца назад, паколькі можа ўтрымліваць атруту — дыяксін. Польскі бок дазваляе ўезд такой машыны з Брэста на сваю тэрыторыю толькі ў тым выпадку, калі яе суправаджае канвой. Тлумачыцца гэта тым, што ахова груза неабходная, каб пазбегнуць дачаснай і незаконнай разгрузкі. ■

# «Купалле» забаранілі

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Упершыню за апошнія гады Мінгарвыканкам забараніў рэдакцыі газеты «Беларуская маладзёжная» праводзіць традыцыйны рок-канцэрт, прысвечаны святу Купалля. У адмове, якая паступіла за подпісам Віктара Чыкіна, намесніка старшыні Мінгарвыканкама, напісана, што афіцыйнай прычынаю адмовы з'яўляецца рэстаўрацыя ўваходнай аркі ў парк Горкага, на канцэртнай пляцоўцы якога традыцыйна праводзіўся канцэрт.

Рок-канцэрты «Купалле з «Беларускай маладзёжнай» праводзіліся апошнія 5 гадоў, і ніякіх інцыдэнтаў пры гэтым не ўзнікала. Арганізатары здолелі забяспечыць бяспеку ўдзельнікаў нават падчас урагану, які прайшоў праз Мінск у чэрвені 1997 года. У гэтым рэчышчы тым больш дзіўным выглядае факт забароны рок-канцэрта. ■

# Злачынцы зніклі разам з золатам

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН**

Па факце ўзброенага нападу на ювелірны магазін «Яхант», што месціцца ў цэнтры Мінска, Цэнтральным РУУС беларускай сталіцы ўзбуджаная крымінальная справа. Паведамленне аб узброеным нападзе на ювелірную краму трох невядомых паступіла ў міліцыю раніцай 7 чэрвеня. Быў уведзены ў дзеянне план па перахопе злачынцаў «Сірэна», якія, на жаль, не даў вынікаў.

Як паведамілі ў Галоўным упраўленні ўнутраных справаў Мінскага гарвыканкама, злачынцы зрабілі каля 10 стрэлаў з невядомай зброі, як мяркуецца, пнеўматычных пісталетаў, у бок супрацоўнікаў крамы, у выніку чаго былі параненыя чатыры жанчыны. Зараз яны знаходзяцца ў бальніцы. Стала вядома, што злачынцы, перад тым як уцячы, паспелі выкрасці 28 ювелірных вырабаў. Памеры панесеных стратаў цяпер падлічваюцца. ■

МЕРКАВАННЕ КРАІНЫ

**Мы продолжаем публиковать результаты социологических опросов, проводимых лабораторией «НОВАК» Андрея Вардамацкого. Опрос проводился с 26 апреля по 3 мая 1999г. Репрезентативная выборка – 1.094 человека.**

# Кому мы не доверяем?




Верхняя часть рейтинга недоверия государственным и общественным институтам и организациям в последнее время практически не изменяется. Бессменно лидирует в этом «черном списке» милиция. Рейтинг органов внутренних дел не удавалось опустить с первой строки ни одному из министров, возглавлявших в разное время министерство внутренних дел.

Следом за милицией в рейтинге идут местные власти. Около 60% белорусских граждан не доверяют этому государственному институту. Скорее всего, здесь сказывается отсутствие возможности выбирать руководителей областей и мэров городов, и белорусские граждане вынуждены довольствоваться теми руководителями, которых назначает президент.

Очень разнится отношение жителей республики и Минска по отношению к президенту и средствам массовой информации. Если в Минске не доверяет институту президентства почти половина опрошенных, то по Беларуси эта цифра ниже на 10,2%. Любопытно, что приблизительно одинаковое количество опрошенных жителей республики не доверяют государственным и независимым СМИ. В Минске же ситуация отличается кардинально – государственным средствам массовой информации не доверяют на 20,8% больше респондентов, чем независимым СМИ. ■



# Юбіляр у робе

## Сёння свой дзень нараджэння святкуе самы вядомы вязень мінскай турмы УЖ 15/1 Уладзімір Кудзінаў

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Уладзіміру спаўняецца сорак гадоў. З-за сваіх палітычных перакананняў ён вымушаны адзначаць юбілей далёка ад дома, ад сям'і. З часу арышту прайшло ўжо 2 гады і 4 месяцы. Гэта менш чым палова ад вызначанага яму судом пакарання — 7 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму, але падчас апошняй амністыі адзін год яму скасавалі. Такім чынам, дэпутату сядзець у турме яшчэ крыху больш за тры з паловай гады.**

Адносіны да Кудзінава з боку адміністрацыі калоніі пагаршаюцца з кожным днём. Так, пасля публікацыі ў «Народнай Волі» артыкула «Два лебедя», прысвечанага нядаўняму вяселлю дэпутата з былой жонкай Зояй, дзе, сярод іншага, апісваліся ўмовы ўтрымання вязняў у мінскай турме, на Кудзінава спрабуюць нацкаваць ягоных сукамернікаў. На сцяне амаль кожнага з атрадаў УЖ 15/1 вывешаны адксеракапіраваны артыкул з «Народнай Волі», і ім абгрунтоўваюць новыя жорсткія новаўвядзенні, якія псуюць жыццё простых зэкаў. Маўляў, мы ж невінаватыя, усё ён, Кудзінаў.

На самога ж Валодзю тым часам наклалі чарговае спагнанне, не дазволіўшы, у які ўжо раз, атрымаць перадачу з дому.

Тым не менш Кудзінаў трымаецца, шмат жартуе. Ён упэўнены, што рана ці позна кожнаму па сваіх рахунках прыйдзецца плаціць.

Падчас знаходжання ў той жа мінскай турме я ўвесь час падтрымліваў з Уладзімірам сяброўскія адносіны, якія меркаваў працягнуць і пасля вызвалення. Планаваў нават зрабіць інтэрв'ю да сённяшняй даты. На жаль, турэмная адміністрацыя так і не можа засвоіць добрыя манеры, і ўсе мае лісты на адрас Валодзі і ягоныя адказы — «губляюцца» ў аб'ёмных тэчках аператыўных работнікаў Яўгена Лася і Віктара Гарбацэвіча.

**Не атрымаўшы магчымасці звязацца з Валодзем, мы паразмаўлялі з ягонай жонкай Зояй Кудзінавай.**

# «Муж стаў увесь сівы»

***— Ці праўда, што з Кудзінавым зараз у турме абыходзяцца вельмі жорстка?***

— Па-рознаму. Але факт, што ён схуднеў на 33 кілаграмы і яшчэ стаў амаль увесь сівы.

***— Вядома, што на волі ваш муж шмат каму аказваў дапамогу, даваў грошы на вучобу бедным, спансіраваў дзіцячы дом, будаўніцтва царквы. Хто-небудзь прыняў гэтую эстафету мецэнацтва?***

— Царква ў Івацэвічах, якой дапамагаў Валодзя, стаіць так і недабудаваная, гэта дакладна. Што тычыцца школьнікаў і студэнтаў, ім зараз ніхто стыпендыяў, як мой муж, не плаціць.

Студэнтаў было чалавек 12. Нашыя, мясцовыя. Вучыліся ў Брэсце, Мінску, іншых гарадах. Усе з бедных сем'яў. Яны проста звярталіся да Валодзі, і ён прызначаў ім рэгулярныя стыпендыі. Мяне, аднак, здзіўляе, што зараз усе гэтыя студэнты як зніклі. Мне пішуць, тэлефануюць зусім незнаёмыя людзі, выказваюць падтрымку, а вось «стыпендыятаў» нешта не чуваць.

***— Вы ўжо некалькі гадоў беспрацоўная. Чаму не ўдаецца знайсці працу?***

— Не бяруць. Я эканаміст, але нават у камерцыйных фірмах да мяне ставяцца з асцярогай. Спачатку абяцаюць месца на ўвазе, але абяцаннямі ўсё і сканчаецца.

***— Вядома, што ўся маёмасць вашага мужа канфіскаваная, гаспадарка разбураная. З якіх жа даходаў вы жывяце?***

— Дапамагаюць добрыя людзі, знаёмыя, родныя. На гародзе вось усё сваё вырошчваю. Гэта для мне, пасля дачок, галоўная радасць і дапамога ў жыцці.

***— Як будзеце адзначаць дзень нараджэння мужа?***

— У пятніцу адзначу на пікеце ў Мінску, побач з ЦУМам, з чатырох да шасці вечара. Прыходзьце. А ў суботу збяромся за сталом з роднымі і падымем кілішак за тое, каб Валодзя хутчэй вярнуўся дадому.

*Гутарыў*
*Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ*

СКАНДАЛ

# Віктар Ілюхін зноў выкрыў «антыбеларускую змову»

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Адыёзны расійскі дэпутат-камуніст Віктар Ілюхін зрабіў у аўторак «сенсацыйную» заяву. Паводле ягоных словаў, спецслужбы ЗША і NATO рыхтуюць буйнамаштабную аперацыю супраць прэзідэнта Беларусі Лукашэнкі.**

Старшыня думскага камітэта па бяспецы сцвярджае, што ў Злучаных Штатах распрацаваны нейкі план супраць Беларусі, які з'яўляецца часткай стратэгічнага плана Амерыкі, накіраванага на дасягненне сусветнага панавання. Згодна з гэтым каварным планам, спецслужбы Захаду павінны ўскладніць сітуацыю ў Гродне і Гродзенскай вобласці, дзе жыве нямала «польскіх каталікоў», каб потым абвінаваціць Лукашэнку ў этнічных чыстках і разыграць вайсковую аперацыю кшталту югаслаўскай. Ілюхін таксама заявіў, што аперацыі супраць Беларусі можа папярэднічаць расстрэл Ірака і Ірана, допуск сілаў NATO на расійскія атамныя электрастанцыі нібыта дзеля забеспячэння іх бяспекі, а таксама дэстабілізацыі сітуацыі ў Кітаі.

Можна, канешне, пасмяяцца з гэтых прароцтваў аднаго з найбольш па-экстрэмісцку настроеных лідэраў КПРФ. Ілюхін і раней не раз заяўляў аб змове сусветнай закулісы супраць Беларусі і Расіі, і падобныя адкрыцці палымянага камуніста ўжо даўно перасталі быць сенсацыяй. Такія ўжо людзі гэтыя камуністы: жыццё без барацьбы яны не ўяўляюць і заўжды будуць шукаць сабе ворага. Вось і цяпер. Пасля таго, як «народныя патрыёты» Расіі правалілі спробу імпічменту Барысу Ельцыну, думскія левыя пераключыліся на барацьбу супраць мірнага плана па Косава. Саступкі Крамля Захаду па ўрэгуляванні югаслаўскага канфлікту расійскія камуністы і патрыёты называюць здрадай братам-сербам і вялікай дыпламатычнай паразай Расіі. А дзеля таго, каб найбольш запалохаць абывацеля, чырвоныя прыдумваюць розныя страшылкі аб крыважэрным монстры NATO, наступнай ахвярай якога абавязкова стане славянская Беларусь, а потым і Расія.

Дзіўным чынам шчыраванні Ілюхіна адносна Беларусі заўсёды супадаюць з абвастрэннем палітычнай сітуацыі ўнутры нашай краіны. Так было ў 1996-м напярэдадні прэзідэнцкага рэферэндуму, калі Ілюхін абвінавачваў кіраўніцтва беларускага Вярхоўнага Савета ў прадажнасці Захаду. Так было і ў 1997-м, калі гэты нястомны думец гаварыў аб створаным ЦРУ падрыўным антылукашэнкаўскім цэнтры ў Варшаве. Нагадаю, што ў той час адносіны афіцыйных Масквы і Мінска былі моцна сапсаваныя з-за арышту Паўла Шарамета. І вось цяпер Ілюхін вылез са сваёй «інфармацыяй» чамусьці незадоўга да заканчэння прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі, у той час, калі беларускія ўлады адмаўляюцца сесці з апазіцыяй за стол перамоваў пад эгідай АБСЕ і робяць стаўку на сілу. Зрэшты, на гэты раз пільны дэпутат Дзярждумы ў сваіх выказваннях быў не вельмі арыгінальны і толькі паўтарыў варыянт з польскай інтрыгай на Гродзеншчыне, агучаны Аляксандрам Лукашэнкам значна раней. Аднак бязглуздзіца з вуснаў маскоўскага дэпутата стала ў момант запатрабаваная ў Мінску, што наводзіць на думку аб невыпадковасці ілюхінскага выступу.

У сераду на працягу дня БТ некалькі разоў паўтарыла інфармацыю аб плане ЗША супраць Беларусі, а вечаровая праграма «Падзея» была цалкам прысвечаная праблеме здрадніцтва Расіі інтарэсам славянаў і магчымай агрэсіі NATO супраць Беларусі. Валерый Цюраеў, чалавек з тварам штатнага гэбіста-прапагандыста, які быў прадстаўлены публіцы як начальнік цэнтра геапалітычных даследаванняў пры адміністрацыі прэзідэнта, палохаў людзей будучымі санкцыямі Захаду да Беларусі. Паводле прагнозаў гэтага «геапалітыка», ужо восенню нашую краіну чакае эканамічная блакада, а там, маўляў, і да прамой агрэсіі недалёка. Ну дакладна так, як было ў Югаславіі. Абрынуў спадар Цюраеў праведны гнеў на адрас Расіі, што «здала» сербаў, і беларускай апазіцыі, якая запрашае «натаўскіх забойцаў» навесці свой парадак у Беларусі. Гаварыў прэзідэнцкі аналітык падкрэслена эмацыйна, відаць, каб ва ўяўленні публікі надоўга засталася жахлівая карціна — апазіцыянеры хочуць спустошыць Беларусь вайной таксама, як і Югаславію. Не выключана, што такім чынам праз маскоўскіх і дамарослых палітінфарматараў беларускія ўлады пачалі рыхтаваць ідэалагічнае абгрунтаванне будучых рэпрэсіяў супраць найбольш актыўных праціўнікаў Лукашэнкі. На выпадак, калі пасля 20 ліпеня Захад і сапраўды зойме акрэсленую і недвухсэнсоўную пазіцыю адносна легітымнасці прэзідэнта. ■

ГОЛАС ВУЛІЦЫ

**Сталкивались ли вы и каково ваше отношение к перекрытию движения во время проезда по улицам президентского кортежа?**



Денис ПИНИГОВ, учащийся ПТУ-9

— Было один раз. На открытии метро «Автозаводская». Он тогда приехал туда, и движение надолго перекрыли, прилично постоять пришлось. Я не понимаю, зачем это делать. Или он всего так боится?



Петр ЛЕВАНОК, техник 1-й категории

— Я с этим сам не сталкивался, но знаю об этом. Отношение? Нормальное. В царскую эпоху, когда царь проезжал по мосту, а под мостом люди проходили, то в них стреляли. С таким положением надо смириться. Они ж — руководители.



Юрий ЧЕПУСОВ, пенсионер

— Лично я считаю так: президент у нас один на всех белорусов. Вы что, хотите, чтобы он пешком ходил? Надо, чтобы было видно — президент едет. Я знаю, что в США президент едет даже без машины сопровождения, но почему мы обязательно должны равняться на западные стандарты, у нас должны быть свои, мы ж особенные. Я — приветствую такое положение вещей. Надо — пусть на весь день перекрывают.



Андрей, водитель скорой помощи

— Перекрывают часто в час пик. И так не проедешь, а тут еще и этот президент.

**Милиционер, сфотографироваться отказался:**
— Да, это мы перекрываем дороги. А что, президент каждый день ездит, и сегодня ехал. Ну вы же понимаете, правильно это или неправильно — не наше дело, это не мы решаем. И обсуждать это нам нельзя.

**Опрашивали Алексей ШИДЛОВСКИЙ и Владимир ШЛАПАК (фото)**

памяць XX стагоддзя 1907

# Таямніца Дызеля

**Міхал МАТУШ**

Аўтамабіль — гэта такое вынаходніцтва чалавечага генія, якое выправіла на той свет не менш жыццяў, чым войны. Аднак, у адрозненне ад Нобеля, які падараваў людзям дынаміт, ніхто не звязвае імёны стваральнікаў машынаў і рухавікоў — Карла Бэнца, Готліба Даймлера, Рудольфа Дызеля, Генры Форда — з крывёй і грахамі. Наадварот, іх імёны ператварыліся ў хадзячыя назвы легкавікоў ці танкавых матораў, якія і сёння заваёўваюць вытворчую прастору. «Форды» выпускае нават Мінскі аўтазавод, а трактары «Беларусь» працуюць на дызельным паліве.

У лёсах заваёвы прыхільнікаў аўтамабіля 1907 год аказаўся годам знамянальным. Па-першае, лік легкавых машынаў, якія выйшлі на дарогі Заходняй Еўропы і Амерыкі, упершыню перабольшыў 100 тысяч (дакладна: на еўрапейскіх заводах зрабілі 92 тысячы, у ЗША — 57 тысяч). Па-другое, вытворцы пачалі пераарыентацыю аўтамабіля з прадмета раскошы ў дэмакратычны сродак руху. У Амерыцы гэтаму садзейнічаў канвеер Форда, што дазволіла прадаваць легкавікі па кошце 450 долараў. У Еўропе жаданню займець аўтамабіль паспрыялі праведзеныя ў 1907 годзе спаборніцтвы па маршруце Пецярбург—Масква—Кіеў—Пецярбург і трансканцінентальны аўтапрабег з Пекіна ў Парыж працягласцю 16 тысяч кіламетраў. Дзякуючы тэлеграфу і журналістам увесь свет сачыў, як павядуць сябе аўтамабілі ва ўмовах расійскага бездарожжа. Вынікам перамогі італьянскага экіпажа стаў рэзкі рост вытворчасці легкавікоў: у 1910 годзе выпуск машынаў склаў 324 тысячы, а ў 1924 годзе з канвеераў сышло болей за 4 мільёны аўтамабіляў. Галоўным у гэтых аўтапрабегах быў удзел звычайных машынаў, якія тады развівалі хуткасць 25 кіламетраў у гадзіну.

Да 1907 года ўжо існавала сталая традыцыя спаборніцтваў, на якіх дамінавалі спартыўныя машыны. У 1904 годзе на гонках у Ніцы спартыўныя легкавікі паказалі хуткасць 102 км/гадзіну, наступным годам амерыканцы ўразілі рэкордам у 176 км/гадзіну. (Дарэчы, абсалютны сусветны рэкорд для машынаў з поршневым рухавіком складае 658,66 кіламетра ў гадзіну.) Удзел у спаборніцтвах прыцягваў шмат аматараў рызыкі, якім стан тагачасных дарогаў і тэхнічная недасканаласць механізмаў вельмі часта каштавала жыцця на трасах. Прыкладам, на гонках Парыж—Мадрыд з 100 машынаў, што сталі на старце, на фініш прыйшло 49.

1907 год быў годам найбольшай славы нямецкага вынаходцы Рудольфа Дызеля (1858—1913), эканамічны рухавік якога распачаў трыумфальнае шэсце. Канструктара віталі ў розных краінах, але ў самой Германіі, дзе заводы выраблялі дызельныя маторы, Дызеля вінавацілі ў тым, што ён скарыстаўся з распрацовак іншых вынаходнікаў і мае незаслужаную славу. У 1913 годзе Дызель адправіўся параходам у Англію. У першую ж ноч плавання знакаміты вынаходнік таямніча знік. Былі сведкі, якія бачылі, як увечары ён уваходзіў у сваю каюту, але ранкам каюта аказалася пустая, і на параходзе Дызеля не было. Па сённяшні дзень застаецца неразгаданай таямніца гэтага знікнення. Ці 55-гадовы канструктар скончыў жыццё самагубствам, ці выпадкам змыла яго з палубы хваля, ці ён сам арганізаваў сваё знікненне, каб пазбавіцца ад нападкаў злосных зайздроснікаў. Існуе версія, нібыта рыбакі бачылі ў той дзень у моры цела тапельца ў багатым касцюме, але на борт яго не паднялі, бо перашкаджала штармавое надвор'е. Але такі паповяд рыбакоў таксама мог быць арганізаваны.

Іншым аўтамабільным першапраходцам пашанцавала болей. Генры Форд пражыў да 1947 года, яго кампанія *Ford Motors* дзейнічае па сённяшні дзень. Форд напісаў некалькі кнігаў («Маё жыццё і праца», «Рух наперад»), дзе выклаў свой светапогляд. Дзякуючы Форду аўтамабільная прамысловасць была пастаўлена на канвеер. Імёны канструктараў, што запатэнтавалі першыя аўтамабілі, захоўваюцца германскай кампаніяй *Daimler-Benz*.

Аўтамабіль змяніў лад жыцця чалавецтва. Скарачэнне сельскага насельніцтва звязанае з прыходам на палі трактараў і заменай гужавога транспарту аўтамабілем. Браніраваныя вайсковыя армады нашага стагоддзя — гэта таксама добра дагледжаныя дзеці першых рухавікоў унутранага згарання. Аўтамабіль даў сетку добрых дарогаў (з 1913 года павялічылася ў 1.000 разоў), смог у гарадах, канкурэнтныя бітвы за нафту, мільёны працоўных месцаў, пасты ДАІ на дарогах, магчымасць за дзень апынуцца там, куды раней дабіраліся месяцамі. ■



Канец стагоддзя. Спартыўны аўтамабіль з турбарухавіком.

МІНУЛАЕ

# Зала скарбаў

## Унікальныя калекцыі захоўваюцца ў малавядомым беларускім музеі

**Юры ХАДЫКА,**
**Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

Музей старажытнабеларускай культуры, які знаходзіцца ў Мінску ў адным з будынкаў Акадэміі навук, адчыніў свае дзверы ў траўні 1979 года. Экспазіцыя дэманстравала помнікі археалогіі, народнага мастацтва і этнаграфіі, абразы, скульптуру, разьбу, чаканку, гравюры. Першым наведвальнікам музея стаў сусветна вядомы астрафізік В.Амбарцумян. «Мы і раней ведалі, — напісаў ён у кнізе водгукаў, — што Беларусь мае багатую культуру. Але не чакалі пабачыць такое багацце». Госці музея бачаць вынікі працы — на стэндах і ў запасніках каля 20 тысяч экспанатаў, але мала хто ведае, як яны там апынуліся, мала хто разумее, што бачыць уратаванае ад знішчэння.

Пачынала музей у 1964 годзе група маладых супрацоўнікаў Інстытута фізікі Акадэміі навук. Кіравала намі выдатны мастацвазнаўца спадарыня Элеанора Вецер. Разам мы наведалі старажытныя Крэва, Ліду, Маламажэйкава, Сынкавічы, Навагрудак, Мір. У Міры патрапілі ў касцёл, які быў перароблены ў склад, і тут сярод смецця ўбачылі некалькі цудоўных драўляных скульптураў, у тым ліку фігуры апосталаў Пятра і Паўла, зробленыя ў чалавечы рост. Загадчык склада аддаў нам гэтыя скульптуры. Мы былі наіўныя і павезлі іх у Дзяржаўны музей БССР, але там не пачулі нават «дзякуй». Тое, што ў іншых краінах збіралі і захоўвалі ў музеях, у нас, у Беларусі, валялася пад нагамі. З Берасцейскай вобласці мы прывезлі 8 абразоў, якія падараваў святар царквы ў Століне. Менавіта з іх пачалося стварэнне музейнага фонду.

Пакрысе фонд рос і налічваў ужо больш за 500 твораў мастацтва. Увосень 1973 г. над музейным фондам пачалі збірацца хмары. Нечакана была забароненая ўсесаюзная канферэнцыя на тэму «Этнагенэз беларусаў». Элеаноры Вецер было прапанавана падрыхтаваць акадэмічную калекцыю для перадачы ў Дзяржаўны музей. А вясной 1974 г. пачаліся звальненні з акадэміі вінаватых у «беларускім нацыяналізме». Фонд быў ліквідаваны.

Мы даведаліся, што прычынай перапалоху была праверка ідэалагічнай працы кампартыі Беларусі камісіяй ЦК КПСС. Аднак праверка прайшла без заўвагаў. Замест звольненай за «нацыяналізм» Э.Вецер да нас прыйшла спадарыня В.Цярашчатава. Яе ролю ў далейшай працы па стварэнні музея цяжка пераацаніць.

Мы здолелі вярнуць большую частку першай акадэмічнай калекцыі, акрамя 100 лепшых твораў, і пашырылі дыяпазон інтарэсаў, пачалі збіраць і помнікі этнаграфіі. Старажытныя творы сакральнага мастацтва людзі аддавалі для музея ў дар. Дзякуючы гэтым дарункам музей мае непаўторную калекцыю каталіцкіх, праваслаўных, уніяцкіх абразоў.

За 20 гадоў музей наведалі тысячы гасцей. Але ў ім ніколі не былі першыя сакратары ЦК КПБ. Не зазірнулі сюды В.Кебіч і А.Лукашэнка. Музей да сённяшняга дня застаецца ведамасным музеем Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Сродкаў на рэстаўрацыю старажытных твораў мастацтва няма. Трэба зазначыць, што ў 1994 г. Фонд Сораса выдзеліў на гэтыя мэты 19 тысяч долараў, і было адрэстаўравана каля 50 абразоў і карцінаў. Экспазіцыя музея дэманстравалася ў Францыі і выклікала захапленне.

Музей — прыклад таго, што могуць зрабіць шчырае аматарства, любоў і павага да роднай даўніны. Гэта унікальны збор каштоўных помнікаў старога беларускага мастацтва. Варта яго наведаць. Папярэдне звяртайцеся па тэлефоне **284-27-32** да А.Ярашэвіча — галоўнага захавальніка музея. ■



Уніяцкія абразы



Старажытны абраз «Хрыстос — Вінаградная Лаза»



Мармуровыя надмагіллі Паўла Сапегі і ягоных жонак



Экспазіцыя жывапісу і драўлянай скульптуры



Беларускія народныя строі


Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 557 Нумар падпісаны ў друк 10/06/99 (15:00) Наклад — 22.240